# Наши Вести

НЕЗАВИСИМЫЙ ИНФОРМАЦИОННЫЙ БЮЛЛЕТЕНЬ. ЯНВАРЬ 2013.

# ПАСЛЯ “КАНЦА СВЕТУ”

Жыхарам планеты трэба шчыра прызнацца, што вестка пра «канец свету», якую доўга мусолілі электронныя і друкаваныя СМІ, не пакінула абыякавым нікога. Адзін паставіўся да яе скептычна, другі — з гумарам, трэці весяліўся ў «апошні раз» на тусоўцы, чацвёрты маліўся, а пяты схаваўся ў бункеры.

Злавесная інфармацыя, прытым «у перадазіроўцы», прыкметна ўздзейнічае на псіхіку людзей, а слабейшых даводзіць да істэрыкі, нервовых зрываў і нават да самагубства. «Падсалоджвала» магчымы прыход суперглабальнай катастрофы толькі тое, што смерць будзе калектыўнай, агульнапланетарнай, бо загіне ўсё жывое. Безумоўна, паміраць у такой фантастычна велізарнай, «прыкольнай» кампаніі камфортней, чым аднаму. Як бы там ні было, а 21 снежня 2012 года па душы кожнага зямляніна прабег халодны скразнячок...

Беларусь перажыла «канец свету» параўнаўча спакойна. Тут запалоханыя абывацелі даўно сядзяць у кватэрах, нібыта ў бункерах, ім не прывыкаць да катастрофы, бо чакаюць яе кожны дзень. Нездарма яны па некалькі разоў на год ажыятажна скупляюць муку, крупы, цукар, алей, соль і запалкі, а паміж такімі закупкамі далдоняць фразу, якую можна паставіць эпіграфам да ўсяго мясцовага жыцця: «Толькі б не было вайны!». Гэты трывожны настрой — пастаянны, яго падагравае няспынны рост коштаў на прадукты, тавары і паслугі, падтрымліваюць сваімі страшылкамі кіраўнікі краіны і афіцыйныя СМІ. Згодна іхніх «дадзеных», Беларусь сціснута аблогай ворагаў, якія ашчэрылі на яе свае пашчы з вострымі ікламі, хочуць разарваць на кавалкі і праглынуць. А яшчэ ўнутры ёсць жудасная «пятая калона», якая амаль два дзесяцігоддзі рыхтуе нейкую невядомага колеру «рэвалюцыю», ды ніяк ёю не разродзіцца, бо «на варце міру» стаяць «доблесныя спецслужбы і міліцыя».

У XXI стагоддзі бачыць такое ачмурэнне дзіўна, але страшылкі сапраўды спрацоўваюць, што сведчыць пра нізкі ўзровень палітычнай культуры, убогасць мясцовага мыслення, нават сярод людзей з дыпломамі. Але толькі зомбі могуць паверыць, што страшная небяспека сыходзіць ад нейкіх знешніх і ўнутраных «ворагаў». Бяда падпільноўвае беларусаў якраз з зусім іншага боку.

Сярмяжная праўда ў тым, што Беларусь мае неэфектыўную аўтарытарную палітычную сістэму і прымітыўную эканоміку, якая на 50 працэнтаў стаіць на «расійскіх мыліцах» і, калі іх не стане, у любы момант можа рухнуць. Вось гэта — самы блізкі «канец свету»...

Яшчэ адзін крызіс чакае краіну ў сувязі з ад’ездам за мяжу ў пошуках нармальных умоў для плённай працы і ўвогуле лепшай долі перспектыўнай моладзі, а таксама таленавітых вучоных, спецыялістаў розных узростаў і профіляў.

Больш аддалены «канец свету» рыхтуе складаная дэмаграфічная сітуацыя. Краіна ніяк не можа выйсці на былыя параметры па колькасці насельніцтва, бо не створаны належныя ўмовы для маладых сем’яў, слаба стымулюецца рост нараджальнасці. Прапагандысцкай балбатні і рапартаў на гэты конт шмат, а рэальная падтрымка абсалютна не адпавядае жыццёвым патрэбам.




Татальнае вынішчэнне роднай мовы і культуры з паўсядзённага жыцця грамадства азначае, што і ў нацыянальным аспекце Беларусь набліжаецца да катастрофы, да фарміравання безаблічнай масы, калі людзі не вызначаюцца ні самабытным характарам, ні працоўным і грамадзянскім патрыятызмам.

З савецкага часу ў тутэйшага люду месца душы занята каўбасой, цяпер да яе дадаўся кашалёк. Але матэрыяльнае і грашовае ўзбагачэнне, якое стала «маяком», па вялікім рахунку, без здаровага розуму і чуйнай душы нічога не вырашае. Чалавек, нацэлены толькі на спажыванне, страчвае жыццёвы смак, становіцца непераборлівым ва ўсім, ідзе на прымірэнне з любымі хібамі і нават злачынствамі, якія ёсць у ягонай краіне.

На рынках высяцца пагоркі нетаварнай гародніны, садавіны, у прадуктовых магазінах ляжаць счарнелыя, пазелянелыя, сцвілыя каўбасы, вяндліна, не прыдатныя для харчавання. Але ўсё гэта можна падмарафеціць: папырскаць, працерці спецрастворамі. Нічога, з’ядуць!

*(окончание на 4-ой стр.)*

# РАЗРАБАТЫВАЕТСЯ ПРОЕКТ ПО СТРОИТЕЛЬСТВУ ЖЕЛЕЗНОЙ ДОРОГИ В ЛЕЛЬЧИЦКОМ РАЙОНЕ



Как сообщили в пресс-службе БЖД, в ближайшее время будут проанализированы геологические и технические параметры проектирования новой линии, а также картографический материал и прогнозные показатели по потенциальным грузопотокам. Кроме того, для обоснования инвестирования строительства линии предстоит также проработать варианты маршрута будущей трассы.

*«Предварительную смету строительства выбранного варианта трассы и эффективность вложения инвестиций необходимо оценить к октябрю 2013 года»*, — отметили в БЖД.

По предварительным оценкам, на проектируемой железнодорожной линии могут быть построены четыре железнодорожные станции: Глушкевичи, Милашевичи, Лельчицы и Михалки. В непосредственной близости от проектируемого участка дороги находятся более 14 населенных пунктов Лельчицкого и Мозырского районов. Протяженность предполагаемой однопутной железнодорожной линии превысит 100 километров, подчеркнули в БЖД.

*«Возможные варианты трассы железной дороги предусматривают возведение одного большого моста (длинной 390 метров) через реку Уборть, а также 25 средних мостов и двух путепроводов. Кроме того, планируется строительство шести железнодорожных разъездов, двух развязок на пересечении с автомобильными дорогами и 16 неохраняемых переездов»*, — сказали в БЖД.

В организации предполагают, что строительство новой железнодорожной линии будет способствовать реализации Государственной программы развития и комплексного использования природных ресурсов Припятского Полесья, привлечению инвестиций и развитию экспортного потенциала страны и транспортной инфраструктуры региона.

**Анна Афонина, БелаПАН.**

Глубокое Полесье ждет транспортную революцию. В центре внимания – строительство железной дороги в Лельчицком районе. Здесь богатые залежи бурого угля. Развитие стальной магистрали в этом регионе становится насущной необходимостью... Окончательное решение будет принято во второй половине года.

Карьер «Крестьянская нива» – потенциальная мощность до 400 миллионов кубических метров строительных материалов. Его разработка началась практически одновременно с Микашевичским. Однако до сих пор уровень добычи держится на скромной цифре в 1 миллион кубических метров в год. Сдерживающий фактор лишь один – отсутствие железной дороги.

Глушкевичский – единственный в Беларуси выход гранита на поверхность. Никаких дополнительных затрат для добычи камня здесь не требуется. Проекты по увеличению мощности предприятия в четыре раза давно ждут инвестора. Однако при виде транспортных расходов у желающих выгодно вложить деньги пропадает всякий интерес.

*"Себестоимость производимой продукции на нашем заводе ниже до 30%, чем на «Рубгранит». Дальше наша продукция доставляется автопоездами на расстояние 100 км до ближайшей станции «Житковичи». Там уже цена возрастает до 60%. Тем самым мы там теряем преимущество в цене"*, - говоритдиректор щебеночного завода «Глушкевичи» Леонид Бурлевич.

Еще одно золотое дно Полесья ждет прихода железной дороги в Прибыловичах. Клад возрастом в восемь тысяч лет – ценнейшие сапропели, не имеющие аналогов в мире. Сапропели в 70 раз дешевле импортных добавок. Экономия колоссальная. Да вот загвоздка: вывезти дешевые добавки с Полесья дешево не получится.

(окончание на 4-ой стр.)



# ЮБІЛЕЙ ПАЎСТАНЬНЯ КАЛІНОЎСКАГА:
## ПОЛЬШЧА СЬВЯТКУЕ, АФІЦЫЙНАЯ БЕЛАРУСЬ ІГНАРУЕ

**150 гадоў таму, у студзені 1863 г., пачалося паўстаньне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Народы Беларусі, Літвы, Польшчы ўзьняліся супраць расійскай акупацыі. Паўстаньне доўжылася да 1864 году і было жорстка задушана.**




У Польшчы ганаровы патранат над урачыстасьцямі, зьвязанымі са сьвяткаваньнем юбілею гэтай гістарычнай падзеі ўзяў на сябе прэзыдэнт Браніслаў Камароўскі, урачыстае адкрыцьцё юбілейнага году адбылося 16 студзеня 2013 году ў прэзыдэнцкім палацы. У розных імпрэзах, прысьвечаных юбілею, якія будуць адбывацца цягам году, акрамя прэзыдэнта, прымуць удзел прадстаўнікі вышэйшых дзяржаўных органаў улады — Старшыні Сэйму і Сэнату Польшчы, прадстаўнікі Рады аховы памяці барацьбы і пакутніцтва, Міністэрства нацыянальнай абароны, шматлікіх арганізацый.

Акрамя канцэртаў, навуковых канфэрэнцый, вэрнісажаў і выстаў, прысьвечаных паўстаньню, людзі наведаюць магілы паўстанцаў і месцы памяці. 22 студзеня на месцы пахаваньня паўстанцаў на вайсковых могілках Павонзкі ў Варшаве адбылася пераклічка прозьвішчаў загіблых, ускладаньне кветак і запальваньне лямпад. У імпрэзе ўдзельнічаў прэзыдэнт Польшчы і прадстаўнікі краін, на тэрыторыі якіх адбываліся баі: Літвы, Латвіі, Беларусі і Ўкраіны.

Як паведамляе амбасада Польшчы ў Менску, сьвяточныя захады заплянаваныя і на тэрыторыі Беларусі. З гэтай нагоды амбасадар Польшчы ў Рэспубліцы Беларусь Лешак Шарэпка 22 студзеня наведаў мястэчка Сьвіслач, дзе ўсклаў вянкі да помнікаў Рамуальду Траўгуту і Кастусю Каліноўскаму, лідэрам паўстаньня. У гэтыя дні прадстаўнікі польскіх консульскіх аддзелаў наведаюць магілы і памятныя месцы гераічнага чыну паўстанцаў па ўсёй Беларусі. *«Аб сьвяточных мерапрыемствах амбасада Польшчы ў Менску паінфармавала беларускія ўлады і запрасіла іх прыняць удзел у сьвяткаваньні 150-годзьдзя Паўстаньня 1863-1864 гадоў, таму што агульная гісторыя павінна аб’ядноўваць, а не дзяліць суседнія народы»*, — гаворыцца ў паведамленьні польскай амбасады.

Тым часам ні пра якія афіцыйныя беларускія захады з нагоды юбілею Паўстаньня Каліноўскага невядома.

<u>На навуковай канфэрэнцыі з удзелам набліжаных да ўлады гісторыкаў пад назвай «Польскае шляхецкае паўстаньне 1863 году. Погляд на падзеі праз 150 гадоў», якая прайшла днямі ў Менску, Кастуся Каліноўскага і паўстанцаў называлі тэрарыстамі і заклікалі паставіць у Менску помнік цару Аляксандру другому, душыцелю паўстаньня, хвалілі губэрнатара Мураўёва-вешальніка.</u>

Адзін з удзельнікаў той канфэрэнцыі рэдактар дзяржаўнага часопіса «Беларуская думка» Вадзім Гігін заклікае пазбавіцца ад «Каліноўшчыны», разьвеяць міт аб Каліноўскім як нацыянальным героі, быццам бы створаным савецкай гістарыяграфіяй, якая бачыла ў лідэры паўстанцаў змагара з царызмам.

<u>Гісторык Ігар Кузьняцоў перакананы, што падобным чынам улады Беларусі ставяцца ня толькі да постаці Кастуся Каліноўскага і паўстаньня 1863 году, але і да гісторыі Беларускай Народнай Рэспублікі, тэмы сталінскіх рэпрэсій:</u>

*«Усё, што зьвязана зь беларускай гісторыяй, выклікае алергію ў цяперашняй улады, і адносна гэтага ўладай абраны сродак замоўчваньня. Гэтая дата нідзе не адзначаецца, гэтае паўстаньне нідзе не аналізуецца, у падручніках пра яго пішуць як пра стыхійнае і выпадковае паўстаньне».* **(“Радыё Свабода”).**

# ...пасля "канца свету"

Чарговыя выбары ў краіне прайшлі з падтасоў- камі і фальсіфікацыямі? Ну і што! Не бярэм да галавы! Праглынем за мілую душу і гэта!

Пасля фальшывага «канца свету», які ўскалыхнуў чалавецтва, беларусам трэба было б сур'ёзна задумацца над сваім сённяшнім жыццём і далейшым лёсам. Але баюся, што гэта не адбудзецца, бо людзей адвучылі мысліць, аналізаваць, рабіць высновы. Цяпер важна не тое, дзе ты жывеш, а хто і як апрацоўвае твае мазгі. Сапраўды, гэта так.

А калі напружыць хоць пару звілін у галаве, то стане зразумела, што чароўны куфэрак адчыняецца проста — ва ўсіх сферах жыцця краіны абавязкова павінна быць канкурэнцыя. Развіццё канкурэнцыі адразу рашае масу праблем. Па-першае, з'яўляецца магчымасць змены ўлады бяскроўным, дэмакратычным шляхам. Па-другое, канкурэнцыя стымулюе рост працоўнай актыўнасці насельніцтва, павышэнне якасці прамысловай прадукцыі, харчу і паслуг. Па-трэцяе, толькі яна дапаможа зрабіць барацьбу з неадольнай карупцыяй рэальнай і эфектыўнай.

Пакуль што ні парад планет, ні астэроід, які ляціць да Зямлі, не ўплываюць на наша жыццё. Два галоўныя бар'еры на шляху Беларусі да прагрэсу — гэта адсутнасць канкурэнцыі і кантролю грамадства над уладай. Сваёй асабістай абыякавасцю да ненармальнага становішча, якое склалася ў матэрыяльнай і духоўнай сферах краіны, а ў канчатковым выніку — да саміх сябе, мы будзем і надалей назіраць мясцовы «канец свету».

*Сяргей Законнікаў, "СН Плюс".*

# ...ПРОЕКТ ЖЕЛЕЗНОЙ ДОРОГИ В ЛЕЛЬЧИЦКОМ РАЙОНЕ



*"Сегодня животноводство Беларуси закупает минеральные витаминные добавки за рубежом. Мы же имеем обогащенный материал прямо под ногами"*, - отмечает директор ОАО «Лельчицкий агросервис» Александр Некрашевич.

Уверен в важности проекта и Сергей Вересович, первый заместитель председателя Лельчицкого райисполкома:

*"С приходом железной дороги, я думаю, может быть, выражусь громко, но будет прорыв для Лельчицкого района. Это новые рабочие места, это улучшит привлекаемость района. Прежде всего привлекаемость для тех инвесторов, которые связаны именно с нашими полезными ископаемыми".*

Трудно поверить, но жизнь целого региона кардинальным образом изменят всего 126 километров железнодорожного полотна. Вопрос уже прорабатывается в министерстве транспорта. Дорога по сути откроет спрятанный до сих пор в рукаве финансовый козырь Беларуси. В стране может появиться абсолютно новый экономический регион. **(ctv.by)**

# ВЫСТРЕЛИЛ СЕБЕ В ГРУДЬ, НО ЧУДОМ ВЫЖИЛ

В последнее время все чаще сообщается о добровольном решении людей уйти из жизни. К несчастью, лишь немногие попытки самоубийства заканчиваются неудачей. Но они все же есть. Так, 35-летний житель деревни Иванова Слобода Лельчицкого района решил покончить жизнь самоубийством. Для этого он взял охотничье ружье и выстрелил из него себе в область грудной клетки. К счастью, после самолично нанесенного огнестрельного ранения мужчина остался жив.

В пресс-службе УВД Гомельского облисполкома сообщили, что пуля прошла навылет. Мужчина получил сквозное огнестрельное ранение грудной клетки слева. Сейчас неудавшийся самоубийца находится в местной больнице. Что толкнула мужчину на такой шаг пока не известно.

Установлено, что охотничье ружье ИЖ-17, из которого стрелялся мужчина, не было зарегистрировано в установленном порядке. Также оно не значится как похищенное или утерянное.

*Екатерина Сенько, belnovosti.by*

**"НАШИ ВЕСТИ". НЕЗАВИСИМЫЙ ИНФОРМАЦИОННЫЙ БЮЛЛЕТЕНЬ.**

Печатается на белорусском и русском языках.

Распространяется бесплатно. Тираж 299 экземпляров.

Редакция не несёт ответственности за содержание и факты, изложенные в статьях. Материалы могут печататься с целью дискуссии.

*Адрес для писем: nashivesti2012@gmail.com*